не змѣщаетъ богатого длѧ тѣсноты своеи, а длѧ гръбости велико богатого (Каліст, II, 71б); море такъ много рѣкъ в собѣ змѣщаючи, мѣру свою перешло (Варл., 148).

**Змещатися** *дзеясл. Змяшчацца, умяшчацца.* в дѣвичомъ животѣ змѣщаетъсѧ невмѣстимый, и тѣлом обнѧтъ бываетъ неѡбнѧтый, а злученьемъ бозства принѧтое тѣло обожаетъ (Каліст, II, 7).

**Змея** *наз. Змяя.* видел Бово у турми ѡдну змею (Бава, 146); тыꙗ люди во скалех мешкают зме ужи жабы ꙗдꙗт (Царств., 70); привели потом до стого ѡдну жену, котораꙗ пючы в ночы воду выпила змею невеликую (Зб. 752, 4б); показаласѧ имъ абіе таѧ невѣста, идучаѧ на смоку, два псы еѧ руки грѣзли, двѣ змѣи коло шыи обвившисѧ перси еѧ ссали (Зб. вып., 42). *Парайн.* змия ў 1 *знач.*

**Змиевъ** *прым.* **1.** *Які мае адносіны да змея, належыць яму.* Желчь змиева вино ихъ, и ꙗдъ асъпидов неисцелеемый (Скар. ДЗ, 62); пут ѡрлов въ нбѣ, пут змиев на скалѣ, пут караблев посереде морѧ, пут мужен въ молодици (Зб. 262, 109); вынесли ему портъ даріевъ ѡт змиевых ѡчей со многоцѣнным каменіемъ (Алекс. 1697, 36б); наѡстрили ꙗзыки свои ꙗко ужове, а ꙗдъ змиевъ под устами ихъ (Пс. XVII, 162). *Парайн.* змеевъ.

**2.** *// перан. Уласцівы д'яблу ў вобразе змея-спакусніка.* госпожа пречстаꙗ. змиева дьꙗвольскои погубителꙗ родила хса (Чэцця, 18б); оное семѧ жен ское в раи еще обетованое мѣло пріити, и главу змиеву по словеси бжіемъ съкрушити (Будны, 214б); выродкѡве зміевы, хто оуказалъ вам оутѣкати ѡт пришлого гнѣву (Каліст, II, 330); не слухай. бо то естъ ересь змиева (Каз. Кір., 163—163б). *Парайн.* змиовъ.

**Змизати** *дзеясл. Знікаць.* Потомъ и ангел божии змизалъ ѡт очию его (Скар. КС, 15).

**Змииный** *прым.* **1.** *Які мае адносіны да змяі, належыць змяі, уласцівы ёй.* оба волъхва со травою змииным ꙗдомъ ... дали стому никите испити в чаши (Чэцця, 34б); камен бодзагир ... аще же розотруть его и посыплют на вкоушеніе змииное. выгнеть ꙗд. аще же загниетсѧ тое мѣсто исцелеет (Арыст., 237); теж и мудрость а рострпопност зміину ... заховуетъ (Карп., 10б); уваж ижъ збавител апостоломъ а през них всим слугам своим, жебы во ѡбцованю з людми простоты голубино а ростропности змиино наследовали (Зб. 255, 212б); людскии народ ꙗдомъ змииномъ заразил (Зб. 81, 166б); на ѡстатокъ в казвешсꙗ горчаишей ꙗду з миина (Алекс. 1697, 46—46б).

**2.** *Д'ябальскі, уласцівы д'яблу ў вобразе змея-спакусніка.* родъ бо жѣньскии ... переж ѡсоуженъ был в раи. прельщѣниꙗ ради змииного (Чэцця, 326б).

**Змий** *наз.* **1.** *Тое, што і* змей *у* 1 *знач.* быс ту близь манастырѧ того кладꙗзь ... живѧху в немъ аспиды и ехидны змиеве и скоропии (Чэцця, 4); Въходит убо в тѧ смачно, напослѣдъы же оукусить тѧ ꙗко гадъ, и ꙗко змии ꙗдъ в тобѣ розлиеть (Скар. ПС, 36); Межи всѣми теды звѣрꙗты земными змии або ужъ был на хитри ши (Бельск., 4б).

**2.** *Тое, што і* змей *у* 2 *знач.* троꙗко звитꙗжил тог змиꙗ, котори тꙗ зводил, на скверны учинок то ночи (Бельск., 361—361б); Дают и боты на ноги ихъ, абы могли беспечне наступати на ꙗдовитого зміа діавола (Каліст, I, 17); мнѡгіе дшы людскіе ѡт ѡкрутного зміѧ в передъ вырвалъ (Варл., 358б—359); оувѣрила ѕмію онаѧ жена зранена пыхою ꙗду діавольскогѡ (Хран., 8б).

**3.** *Тое, што і* змей *у* 3 *знач.* ты роздѣлил еси моцъю твоею море: ты покрушил еси головы змиев в водах (Пс. XVII, 57б); Ѕмій: Оуж, Гадина, ѕміѧ, ѕмій, земный смокъ, морскій смокъ (Бяр., 46).

**4.** *Тое, што і* змей *у* 4 *знач.* и паламали змиѧ мѣдѧногѡ которогѡ былъ оучинилъ моусей (Хран., 342).

**Змилованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* змиловатися. вашой милости государю низко чоломъ бью, абы ваша милость, государь, змилованье свое вчинилъ (АЗР, II, 23, 1507); ѡжидаемо змилованьѧ бга вседержителѧ. просѧчи его, абы нам того крста ослабилъ (Апакр., 214); речь таꙗ не порушает гсда бога до змилован[ꙗ], але наболѣй до гнѣву его запалꙗет (Біблія, 564—565); милсрдными и щодробливыми и до змилованѧ склонными были (Варл., 90б); у двере ег в ночы верещат и змилованꙗ просит почела (Зб. 81, 246б); Млсть: Милосердъе: милост, змилованье, злитованье, милостынѧ, простынѧ, прощенье, ѡтпущенье (Бяр., 78); над тыми которие ꙗкую кривду терпѣли, мѣлъ великое змилование (Зб. 82, 146б); тобѣ было ѡдною македоніею ѡбладат ѡтчизною своею над которою змилование чиним зоставшимъ по ѡтци своем милом (Алекс. 1697, 22б — 23).

**Змилованьесе** *наз. Дзеянне па дзеясл.* змиловатися: Помилованіе: Прощеніе, ≠ всѣа. змилованьесѧ (Бяр., 111); Състраданіе, съболезнованіе, оущедреніе: Змилованьесѧ, злитоване, згода в намѣтностѧхъ (Там жа, 166).

**Змиловатися** *дзеясл. Праявіць міласць, літасць, спагаду; злітавацца.* княже Михайле, со слезами чоломъ бью твоей милости для Бога змилуйся, вступися за насъ! (АЮЗР, I, 35, 1508); онъ тымъ больши верещалъ, сыне давыдовъ змилуисе надо мною (Цяп., 58б); Говорнар ... рек: Пане длѧ Бога, змилуисѧ, выслухаи речы моее (Трыст., 16); ѡни ѡздобне ꙗко звыкли, убравшисе ... шли на палац просꙗчы абы се над их сиротством змиловал (Бельск., 276б); Молюсе теды прилежно, змилуйтесе, змилуйтесе надо мною и сами надъ собою (ИЮМ, XXIII, 413, 1623); тебе не прошу ѡ то жебыс сꙗ надо мною змиловалъ (Пралог., 506); видѧчи в ней дитѧтко плачучое змиловаласѧ над нимъ (Хран., 79б); Съсраждꙋ [кому:] злѣтовуюсѧ, оужалѧюсѧ, змилоуюсѧ [над ким] зроущедрꙗю (Бяр., 167); Алезандер над ними змиловалсꙗ, дари ѡт них принꙗл (Алекс. 1697, 18).

**Змиовъ** *прым. Тое, што і* змиевъ *у* 2 *знач.* Бо человѣкъ не остоѧлъсѧ въ ѡнои правде ȣ которои былѕ створонъ, понѣже над божие росказанье змиовои рады послухалъ (Будны, 107).

**Змирати** *дзеясл. Паміраць.* тогды жоны и девицы и маленкіе дѣти зѕ города бижали, тые смерти позбывали, а инъные по пивницахѕ змирали, и много погорѣло (Алекс. 1697, 14б).

**Змирити** *дзеясл. Памірыць, прымірыць.* тотъ завжды до господаря нашого своими послы наказывалъ, хотѣчи твою милость змирить и зъединачити зъ нашимъ господаремъ (АЗР, I, 210, 1500).

**Змиритися, змирытися** *дзеясл. Памірыцца, заключыць мір, прыйсці да згоды.* хотѣчи съ нами змиритися черезъ тебе брата нашого (АЗР, I, 203, 1500); ижъбы ся съ нами змирилъ, и городы и волости наши ... намъ зася вернулъ (Там жа, II, 48, 1508); ѡн ... велми сѧ боит смерти и хочет с тобою змирити сѧ первеи смерти за жывота (Бава, 145); нехаи будеть на твою волю, а ꙗ хочу с тобою змирыти сѧ (Там жа, 157).

**Змирский** *прым.* ◆ К у н и ц а  з м и р с к а я *гл.* куница

**Змирщина** *наз. Мірнае вырашэнне спрэчкі, сваркі.* которое полочане межы собою побьются и за децким поеднаются ино нам куница шерстию змирщины (ИЮМ, XXVIII, 229, 1593).

**Змирытися** *гл.* змиритися

**Змислити** *гл.* змыслити

**Змия** *наз.* 1. *Тое, што і* змея. *камен бадзагир.* Имает двѣ лице иное желтое ꙗко воскъ а иное рѧбо ꙗко змiѧ и желто (Арыст., 237); з дрȣгои змии ꙗко ѡбручъ ȣчынившы взложыли на шыю мою (Зб. 752, 563); змій; Оужѕ, Гадина, ѕміѧ, ѕмій, земный смокъ, морскій смокъ (Бяр., 46); змиѧ ... выпустила в вино ꙗд своѕ (Зб. 82, 50).

2. *Тое, што і* змей *у* 2 *знач.* евга бо ѡт зміи прінесла рѣчь (Чэцця, 18); Како змиѧ прельстила женȣ а она ꙗде ѡт древа заповеданого и да мужу своемȣ (Скар. КБ, 12).

3. *Тое, што і* змей *у* 4 *знач.* Моѕсей ȣлил змию и завесил еи на крстѣ (Зб. 261, 207); моѕсею бгъ росказал, жебы змию мѣдѣнȣю ȣлил (Там жа, 210).

**Змлада** *прысл. Змоладу.* абыс сꙗ ȣчылъ ижъ добре змлада богȣ слȣжыт и з цноты в цнотȣ постȣповат (Зб. 255, 202—202б).

**Змлелый** *прым. Вялы, млявы, самлелы, пазбаўлены энергіі, бадзёрасці, жвавасці.* кгдыж ты ѡчи маешъ а не видишь, и мнимаешъ абысмы были ровни персомъ, которих ес ты под свое панство подбилъ, заправдыс з змлѣлыми воевал (Алекс., 24—24б).

**Змнейшати** *дзеясл. Зменшваць.* пожитковъ и доходовъ къ скарбу нашому господарскому съ постановленья ревизорского належачихъ отдавати и ни въ чомъ ихъ змнѣйшати не маемъ (АЗР, IV, 2, 1588); панъ Янъ Глѣбовичъ, на Дубровнѣ, тые мыта новоподвышоные держалъ, ни въ чомъ не змнѣйшаючи ихъ (АВК, VI, 52, 1589).



**Змнейшенье, змнейшение** *наз. Дзеянне па дзеясл.* змнейшати. якимъ-кольвекъ правомъ къ змнѣйшенью приходовъ скарбу нашого отдали: тогды таковые листы. записы, данины и привилья наши и потомковъ нашихъ ... ниякого права и моцы противъ сему привилью нашому мѣти не маютъ (АЗР, IV, 2, 1588); за чимъ ку великой сказѣ и шкодѣ всѣго враду Мѣстского, и знищенія послушенства повинного, и змнѣйшенію доходовъ и пожитковъ Нашихъ Мѣйскихъ чинятъ (СДГВ, 152, 1605).

**Змнейшоный** *дзеепрым. ад* змнейшати. зачымъ бы врадъ и владза возных змнейшона, а зготла в нивеч обернутися мусела (АВК, XXXII, 136, 1596); владза враду кгродского змнейшона быти бы мусела (Там жа, 164).

**Змова** *наз.* 1. *Угавор, дамоўленасць.* Я Ивашко ... объявямъ тымъ то листомъ моимъ, што если мѣлъ змову с пани Ивановою ... о мѣстце ее в мѣстѣ Виленскомъ (АВК, XX, 1, 1529); Тогды жона его Марья, водлѣ змовы мужа своего, дочку ... за того дворенина нашего Михайла Воловича заручила (РПП, 181, 1547); панъ Николай Ясеньский уделалъ змову и продалъ на вечность ... его милости князю Валерияну ... каменицу свою в месте Виленьскомъ (АВК, XX, 16, 1668); Этэреусъ и брытанскии король, ѡтец Уршули, зобравшы водле змовы такъ много панен дали их Уршули в товарышство (Атыла, 213); назавтрее жаловалсꙗ ѡто иꙗков на лавана, иж его ѡшȣкал жоною, а не тȣю дал ѡ которȣю была змова (Бельск., 22); отобралемъ водлугъ торгу и змовы за камень млыновый, тенъ рокъ старгованный до млину дубровенского, золот. пятнадцать (ИЮМ, II, 63—64, 1683).

2. *Змова, тайнае пагадненне.* хто змову або спикнене або бунт учинил ... чэсть горло именъе тратить (Ст. 1566, 8б); кгды выполнил ѡфѣрȣ ȣчинили змовȣ з присꙗгою моцною, против дѣдови (Бельск., 107б); Кнзь зас Дмитриі ничого о той змовѣ на него кнзей не вѣдал (Мам., 171).

3. *Згода, пагадненне.* хотячи черезъ тые послы наши къ тобѣ всказати о братствѣ и о пріязни и о доброй змовѣ (АЗР, II, 45, 1508); перво сего пословъ нашихъ великихъ ... посылали до тебе, брата нашого о доброй змовѣ (АСД, IV, 4, 1562); Миколай Рудинский ... за змовою ... пана Дзыблевского ... почалъ дей до него с фуками и пригрозками мовити (АВК, XX, 225, 1611). *Параўн.* змолва.

4. *Перагаворы, спрэчка.* по долгихъ змовахъ обеюхъ сторонъ, мы, судъ, заховываючи вцале декретъ его королевское млсти, вызналисмо, абы сторона отпорная на жалобу стороны поводовое отказывала (ИЮМ, VIII, 215, 1593).

**Змовеный** *дзеепрым.* 1. *Ад* змовити *ў* 2 *знач.* ему за службу тую, за которую сꙗ обетницы упоминает змовеную дванадцать грошей ... заплатил и вже отдалъ (ИЮМ, XXXII-2, 103, 1578); до року межи нами змовеного до Великодня ... брата своего на своемъ месцу пры мне оставует (АВК, XXXIX, 143, 1578);

нанял он мене у фурманство ... выдалемъ на властные его потребы ... опроч фуры змовеной копъ тры грши (Там жа, 268, 1579).

**2.** *Ад* змовити *ў* 3 *знач.* котораꙗ жъ дочка его на онъ часъ была змовена за пана Юрья (КСД, 791, 1512); которая [дочка] ач перед часомъ смерти его за него была змовена, нижли по смерти и по похованъю ничимъ не выправеную дей за себе взꙗлъ (ИЮМ, XXXII-2, 151, 1578); Много паненокъ римскихъ зненавидѣвши ѡблюбенцами за которихъ были змовены христови сꙗ пустили (Пралог, 529б).

**Змовенье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* змовити *ў* 2 *знач.* которая дей то справа, кгды се на тыхъ помененыхъ рочкохъ ... приточила, тогды въ той справѣ змовенья насъ обѣюхъ сторонъ два декреты зашли (АВК, VIII, 440, 1588); За роботу окенецъ чотырехъ до скарбницы подъ ратушомъ, за змовенемъ пана Коробанка лавника теслемъ золот. два и асм. пятнадцать (ИЮМ, I, 227—228, 1682); при змовеню тымъ же дойлидамъ ... на магарычъ, на кварту горелки, дали осм. пятнадцать (ИЮМ, IV, 183, 1686).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* змовити *ў* 3 *знач.* Коли сꙗ тое змовене стало панна ... захорела (Зб. 752, 68б).

**Змовины** *наз. Заручыны, змовіны.* Его королевская милость въ тотъ часъ о тыхъ рѣчахъ, змовинахъ и становленіяхъ и о записахъ, если якіе съ паномъ воеводою тотъ Дмитрей мѣлъ, не вѣдалъ (АЗР, IV, 271, 1608); Которую тую суму пенезей вжо по змовинахъ цорки пана Давыдовы кгды помененный панъ Кособуцкій, въ томъ же року ... сына своего Андрея до Королевца выправилъ (АСД, I, 371, 1646).

**Змовити** *дзеясл.* **1.** *Сказаць, вымавіць.* не могу хлѣба выпросити у тых шатахъ, а змовѧть ми люди: Украл еси ихъ (Бава, 149); еслижъ розꙋмѣешъ же на самомъ едином петрѣ всѧ црковъ бываетъ бꙋдована, штожъ змовишъ, и о иѡанѣ сн҃у громовомъ, и о кождомъ ѡт апслѡвъ. (Апакр., 98); тивиркиˢ речет, нехаˢ емꙋ ѡдно слово повѣмъ, изали ку здоровю приꙸдет, и змовил над ним ѡтче нашъ, и вѣрꙋю во единого бг҃а (Зб. 752, 518—518б); то змовивши ѡборотилсꙗ до дитꙗти и спытал пѣстуна (Зб. 752, 422б).

**2.** *Дамовіцца, умовіцца, дагаварыцца.* Рубинъ Докторовичъ ... змовилъ былъ у татарина Лососенского ... коня за пятнадцать грошей до Вилни ехати (АВК, XVII, 122, 1540); я у него гроши не позычал, але он еще мне не заплатил зуполна за фуру, што был змовил (АВК, XXXIX, 132, 1578); пан Трыщан змовил был со Ижотою, абы вышла у городец (Трыст., 85); змовить межы собою кнѧз великии Кестутеи а кн҃зь великии ѡлькгирдъ што всеи братьи послушнои быти великого кн҃зѧ ѡлькгирда (Рач., 316); взем копіе выехал з воиска своего, а пор из своего воиска выехал, и змовили ижˢ бы воиски им не помогали (Алекс. 1697, 72б);



ѡглꙗдаˢ собѣ корабль на берегꙋ и змовмо перевозъ (Зб. 82, 320); Змовилъ косцовъ самъ п. райца, на Луполове косить морговъ меских҃ъ 24 (ИЮМ, XXI, 36, 1711).

**3.** *Заручыць.* змовили и дали за него внуку свою, Аврамову дочъку Ждану (КЗ, 789, 1499); дочку свою старъшую за пана Толочиньского молодого до коруны, змовивъши, выдала (КПД, 46, 1538); ꙗкожъ ѡные послы змовившы панну привезли на Москву и самого пана сондомирского воеводꙋ (Барк., 170); Клитофонъ ѡц҃ъ его змовилъ за нег дв҃ицꙋ зацного тежъ и великог родꙋ (Зб. 81, 79б); змовили за него паненку цесарского родꙋ (Пралог, 522).

**Змовитися** *дзеясл. Змовіцца, дамовіцца, згаварыцца, дагаварыцца, прыйсці да згоды.* надъ то ты змовилася зо мною, и всихъ тыхъ именей мне поступилася (КЗ, 717, 1498); они змовилисѧ на него (Скар. КБ, 67б); змовившисе зˢработники по грошу на день, послалъ ихъ до винницы своее (Цяп., 27); Бово Глиберту поведалъ все, ꙗкъ сѧ зъ Симъбалдом змовил на Додона (Бава, 166); ѡни змовившысѧ ѡдное мыслне и подалисѧ великому кн҃зю Кгидимину (Рач., 312); то пакъ за тымъ доводомъ копа вся змовившися всказали, абы гостя на першой копе ставилъ (АВК, XVIII, 90, 1591); зложылъ з ꙋрѧдꙋ его змовившысе з цесаромъ и цесаровою (Унія, 20б); змовилисꙗ межи собою братꙗ так как бы его зсадити з вилни (Патр. К, 43); селевкиˢ ... змовилсѧ през листы з маркомъ цесарем, абы до ехвесꙋ ѡнаꙗ егѡ ѡблюбенка луцѣѧ завезена ... была (Зб. 82, 107). *Парайн.* змолвитися.

**Змовленый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* змовити *ў* 2 *знач.* купец ... збожьѧ до мири привезлъ и змовленые пенези за него взꙗл (Зб. 82, 225); Ивана и Алексея змовлено для направеня брамы ветреное, золот. два и асмак. осмъ (ИЮМ, I, 134, 1681). За змовленые колы до герматъ паръ двухъ, золотыхъ двадцать (ИЮМ, II, 160, 1684).

**2.** *У знач. наз. Выплата па дамоўленасці.* татарын Дановский юркгелту змовленого и пулъбарвы заслужонай ценою в жалобе мененого жалуючому неоддалъ (АВК, XXXI, 443, 1679); За комору Путятину мурованую за рокъ брали отъ Опоскана сына змовъленого золот. десять (ИЮМ, VII, 19, 1690).

**3.** *Ад* змовити *ў* 3 *знач.* ижъ первѣй нижьли тая змова межи ихъ милостью сталася была, тогды вжо дочка пана Виленского старшая панна Ганна змовлена была за князя Илью Костянтиновича Острозского (АРЗ, II, 338, 1536); дочкꙋ его змовленꙋю за великог пана, первеˢ так еи посоромотил ним ю стꙗл (Бельск., 205б); дѣвка ... за его Ивана Буяновича была змовлена и заручона (АСД, I, 322, 1640); диꙗвол ... младенцовъ за которых быт мѣла змовлена ... ей приводил (Зб. 752, 34).

**Змовленье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* змовити *ў* 2 *знач.* ижъ ту на сей часъ стати не могъ, а то учинилъ

змовьленье зъ мѣщаны Львовскими нового братства (АЗР, IV, 74, 1594).

2. *Дзеянне па дзеясл.* змовити ў 3 *знач.* колі сѧ тое змовлене стало, панна ѹже маючы лѣтъ ѕ҃і захорала (Зб. 81, 47б).

**Змовляти** *дзеясл.* 1. *Паведамляць, інфармаваць.* певную суму пенезей въ листе аренде нашей, ему даномъ описанную, которая ширей и достаточней около того змовляеть (ИЮМ, VII, 279, 1577).

2. *Наймаць каго-н. для выканання пэўнай працы на пэўных умовах.* наймали косцовъ ... штобъ объкосили зъ обоихъ сторонъ валъ, змовляли золот. шеснадцать (ИЮМ, VI, 92, 1689); Гды змовляли дойлидовъ накрывать цекавзъ, дали имъ задатку на кварту горелки осм. дванадцать (ИЮМ, VIII, 156, 1691).

3. *Заручаць.* але матка девокъ своих без рады и ведомости ѡпекѹновъ ихъ в станъ малженьски҃ змовълѧти и ѡтдавати не маеть (Ст. 1588, 280).

**Змовлятися** *дзеясл.* *Змаўляцца, дамаўляцца, умаўляцца, дагаварвацца, прыходзіць да згоды.* тые змовляли сѧ: Дамо сѧ звалашати, лепѣи намъ умерети на свете, нижъ у темницы (Трыст., 104); въ некоторыхъ повѣтахъ панове поляцы, братья наши, змовляются, абы его королевскую милость на соимѣ не отводили отъ войны (АВК, VIII, 180, 1582); В том же року был его млт змовлѧючи ѡ потужности пришлое воины (Еўл., 30); Іѹстиѧн гетман внук Іѹстина цесара, з҃ ѡною се софиею змовлѧючи и до своеи злои хоти кѹ пановаю вернул (Бельск., 331б); зъ ѡдным се вѣрънымъ слѹгою своим змовлѧлъ, ѧкобы наѹчителѧ своего забилъ (Пралог, 665); трафилосе иж два резанцы коморніи розгнѣвалисѧ на црѧ и змовлѧлисѧ на смерть забитье его (Хран., 378б); Съвѣщаваюсѧ: оумовлѧюсѧ, с҃ кимъ. змовлѧюсѧ, зезволѧю с҃ кимъ (Бяр., 162). *Параўн.* змовятися.

**Змовный** *прым.* *Дамоўлены, умоўлены, загадзя вызначаны, устаноўлены.* мой пан ... с тобою змовил ... же бы сѧ на тот змовныи рок становил в тои церкви (Трыст., 119).

**Змовца** *наз.* *Арбітр, пасраднік.* ѧм змовцею и сродкем былъ (Выкл., 57б).

**Змовятися** *дзеясл.* *Тое, што і* змовлятися. ѧ тотъ котел был взѧл нижели трубъ не бралъ и покотелщизны платит не зъмовіал и брали се до присеги (ИЮМ, XXXII-2, 8, 1578); Прискъ ѡны҃ зѧт маврикиев, видѧчи великое ѡкрѹтенство фоки змовѧтсе почал з ираклием, старостою або претором африки, абы на тирана з во҃ском прибыл (Бельск., 335); змовѧли сѧ теды на его часто (Пралог, 620б).

**Змога** *наз.* *Змога, сіла, магчымасць.* повинни есмо и мы подобити сѧ Бгѹ ведлѹгъ змоги силъ нашихъ (Каліст, II, 301); жебы каждый ведлѹ҃ змоги своеи Бгѹ и божим оугажал, ѧкъ златоѹстый стыи оучит҃ (Мак., 8); добріи дѣла, ведлѹ҃ змоги не дадѹтъ еи ѣсти баранка (Там жа, 367).

**Змогати** *дзеясл.* 1. *Магчы, быць здольным.* Колькѡ тобѣ



Гдѣ Бгъ твой зезволѧет, и ты понести змогаешъ, толкѡ з начаткѡвъ вѣчногѡ оног блаженства южъ заживаешъ (Сматр., 49). *Параўн.* змагати ў 1 *знач.*

2. *Адольваць, асільваць, перамагаць.* ѧ съ нимъ нялся по стайни водити, а проводникъ светить намъ, а потом ѡнъ почалъ мя змогати и ѧ закликалъ на проводника: «ретуй мя!» (КСД, 293, 1516). *Параўн.* змагати ў 2 *знач.*

**Змогатися** *дзеясл.* 1. *Змагацца, біцца, ваяваць са зброяй у руках.* коли виделъ Трыщана, ѡн мѣль страх ѡть него и ѡба сѧ втомили, што инакъ не могло быти нижли одному тут ѡстати, и длѧ того кождыи сѧ змогал на вдарцы, и вси которые ихъ видели, дивили сѧ великимъ дивомъ (Трыст., 21); Оучинилъ теды бгъ днѧ онагѡ и Авина црѧ хананѣйскогѡ пред҃ сынми Ізраилевыми оунижоным. которыи, што днь се змогали, а моцною рѹкою глумили и авіна црѧ хананейскогѡ ажь его зnative згладили (Хран., 175б).

2. *Супраціўляцца чаму-н., імкнуцца перамагчы або знішчыць што-н.* былъ имъ супротивныи вѣтръ, и морнары лѧклисѧ и змогалисѧ много и не могли ити, а пустили судно куды вѣтръ понесеть (Трыст., 94); змогалисѧ и чаровники але не могли оучинить. и рекли чаровники до фараѡна: моцъ то бжаѧ есть (Хран., 85). *Параўн.* змагатися.

**Змогчи** *дзеясл.* 1. *Адолець, перамагчы.* печенигове ... мовечи, если ваш рѹсин зможет нашег печенига, то мы вам бѹдем слѹжити (Стрыйк., 447); если зас и поставлю, своег ѧког рѹсина а печенѣг его зможет то соромота и шкода (Там жа, 447б).

2. *Змагчы, здолець зрабіць што-н.* Если ж҃ всѣхъ дочасностій нѣзашто не поважимо: если всѣхъ сегосвѣтныхъ роскошій тане не ошацѹемо, на Бга смотрети и емѹ оугодити не award зможемо (Каліст, II, 272б).

**Змогчися** *дзеясл.* *Змагчыся.* змогъсѧ самсон без питѧ просил гсда бга ѡ водѹ (Самсон, 25); змоглисѧ и чаровники, але не могли ѹчинит. и рекли чаровники до фараѡна. палецъ то божий есть (Біблія, 115); так потом змогла сѧ во҃на межи бѹнтовники ѡными, а мѹдреци жидовскими, але бѹнтовники взѧли церков гдню (Бельск., 214б).

**Зможжити** *дзеясл.* *Знішчыць, зруйнаваць, разбурыць* [?]. сотрѹ твою моць и голову а зможжу твое наиграване (Зб. 81, 48). *Параўн.* змощити.

**Зможненьеся** *наз.* *Узмацненне.* было тое честное древо стое гдне во иерѹсалимѣ ... ажъ до зможненѧ сѧ махометског (Зб. 82, 26).

**Зможность** *наз.* *Магчымасць здзяйснення чаго-н.* пришедше он в дом мой без бытности моее наперод просил ести рыб и таковых потрав, которых зможность убозства моего знести не могла (ИЮМ, XXXII, 74, 1578); Што потреба будеть, муромъ и деревомъ будовати, волугъ зможности и уподобанья своего (АЗР, V, 69, 1641).

**Змоклый** *прым. Змоклы.* ωбач иж ωшарпана и змокла невѣста (Зб. 752, 309); воѕзрит а ωбачит, ижъ ωшарпана змокла невѣста (Зб. 82, 386б).

**Змокнути** *дзеясл. Змокнуць.* ȣежджаѕ еж и пи рыхло бо барзо змокнеш (Зб. 752, 348).

**Змолва** *наз. Тое, што і* змова *ў 3 знач.* вашъ государь положилъ былъ то на великіе послы на паны радныи, хотячи зъ нашимъ господаремъ миру и доброѣ змолвы (АЗР, I 245, 1501—1503); такъ долгій часъ, намъ съ тобою братомъ нашимъ миръ а добрая змолва ся не стала (АЗР, II, 131, 1520).

**Змолвитися** *дзеясл. Тое, што і* змовитися. тымъ обычаемѕ можемѕ сѧ змолвити, въсхощете ли подобни быти намъ и обрежете ли весь мȣжеский полъ еже вѕ васъ ест (Скар. КБ, 63).

**Змолоду, змолода** *прысл. Змаладу.* Чего змолоду не собралѕ еси собѣ, и ꙗко знаидешь сее въ старости твоеи (Скар. ІС, 41); кто змолада роскошно ховает слугу своего сей потомъ имети будетѕ его собѣ противнымъ (Скар. ПС, 44б); хотꙗчи ихъ змолодȣ во вшелꙗкоѕ цноте выцвичити (Зб. 259, 584б); еще змолодȣ вина не пиꙗлъ ωдно самȣю водȣ, раз толко на ден елъ (Зб. 752, 441б); Иωанъ ... змолодȣ добре выхованыѕ боꙗзнь божию мѣлъ в серцȣ вщепенȣю (Зб. 82, 141).

**Змолоти** *дзеясл. Змалоць.* я-мъ ждалъ, поки бы онъ тую пшеницу змололъ (АВК, XVII, 276, 1541); коли змелетъ спечетъ то у печи испечетсѧ, а з лопаты ȣ печъ не ȥложит с печи ажъ ωполоником выберет (Барк., 164); послалемъ был молотца своего жита змолот (АВК, XXXIX, 213, 1579); если бы се трафило которому зъ нихъ въ чужомъ тыждни на дворную потребу молоти, теды жита по двѣ бочки ... змолоти вольно (АВК, VI, 234, 1619).

**Змолотися** *дзеясл., зв. ад* змолоти. ꙗм ест пшеница бж҃ꙗ, нехаѕ се в зȣбахъ илвыныхъ и змелю (Зб. 82, 236).

**Змолотити** *дзеясл. Змалаціць, абмалаціць.* збирала в поли до вечера и змолотила то иже събрала и было с мѣроу ꙗчменю (Зб. 262, 32); ваша бы милость на тую зиму росказали бы тымъ писаремъ дворовъ нашихъ самимъ по тымъ двором ѣхати, и, подлугъ реистровъ ихъ, въ которыхъ описаны гумна наши, по колку сотъ бочокъ жита змолотивши спродати (АЗР, II, 347, 1538); она безъ бытности моее змолотила пятдесятъ копъ жита (АВК, XVII, 242, 1540); на насѣнье змолотили жита копъ петьдесятъ чотыри (АВК, XIV, 456, 1593); же привезли зъ Луполова змолотивши, фурманомъ платили отъ осети по осм. двадцать (ИЮМ, XIV, 83, 1700).

**Змолотый** *дзеепрым. Змолаты.* ямъ ему мовилъ, жебы онъ жита своего не засыпалъ, абы первей жито на дворъ змолото было (АВК, XVII, 276, 1541); Нижли ку новому двору въ кождый годъ въ петьдесятъ бочокъ жита а петьдесятъ бочокъ солоду безъ мѣрки и вшелякое заплаты маетъ быти змолото (АВК, XIV, 6, 1555); съмленыи: змолотыи (Бяр., 79); ꙗ есми ест зерно его, а в зȣбахъ звѣреѕ змолот быт маю (Зб. 82, 263б).

**Змолоченый** *дзеепрым. ад* змолотити. Стлаченный: змолоченый, леvіт, в҃. стовченый (Бяр., 156).

**Змолоченье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* змолотити. за змолочене трохъ осетей збожа, дали Бердею отъ осети по осм. сорокъ (ИЮМ, XI, 115, 1697); За змолочене тыхъ девяти осетей заплатили отъ осети по осм. сорокъ (ИЮМ, XII, 88, 1698).

**Змолчати** *дзеясл. Змаўчаць, прамаўчаць.* есть ли молчачи змолчишь въ времѧ сее просторъ избавленьѧ станетьс июдѣꙗном ωт мѣстца а ты и домъ ωтца твоего погинете (Зб. 262, 129б); ωдинъ дрȣгомȣ ȣстȣповати бȣдеть, и змолъчить жона мȣжови, а мȣжъ жонѣ (Зб. 259, 477б); мȣжъ ꙗко голова и мȣдриѕ мает слабоѕ жонѣ змолъчати (Там жа, 477б).

**Зморагдъ** *наз. Назва царкоўнай кнігі (зборнік павучанняў для хатняга чытання).* А книгъ: Правила великіи, Уставъ, Соборникъ постный. Соборникъ годовый, Соборникъ Житія Святыхъ, Зморагдъ, Потребники два, Служебники три, Дороѳей, Ефремъ, Никонъ, ѳеодоръ Студитъ, Апокалипсія, Григорей Синаить, Псалтыря въ десть, Часословець (АЗР, I, 137, 1494).

**Зморати** *дзеясл. Зморваць, знясільваць, стамляць.* зморали б его тма и тѣн смертныи ωтпочивала б над нимъ хмара (Зб. 262, 13).

**Зморгованый** *гл.* зморкгованый

**Змордованый** *дзеепрым.* 1. *Ад* змордовати *ў 1 знач.* Солецкого збитого и змордованого а праве на полы умарлого ... отволокли до турмы своее меское (ИЮМ, VII, 290, 1578); одного боярына нашого ... подданые пана подкоморого ... збитого и зморъдованого ... до двора пана своего ... отъвели (АВК, XXXVI, 65, 1582); Перед того жъ выеждчого ωт его крол. мл҃сти приносил ωдинъ мещанинъ на рȣках своих дѣвчину ȣ шести летех змордованȣю зкгвалчоную ледвеѕ живую, чого было горко плачливе страшно глѧдети на тое (Барк., 166б); возницу при тыхъ коняхъ окрутне збито и змордовано (АВК, I, 331, 1666); рим кровию и тиранством змордованыѕ трохȣ ωтпочил (Бельск., 238).

2. *Ад* змордовати *ў 2 знач.* Змордованы ȣбо были людие (Скар. ПЦ, 258); ωпаленыѕ і барзо з дороги змордованыѕ гледѣлъ если бы где былъ поблизȣ манастыр (Зб. 107, 122б); так ꙗко инshiѕ человек з дороги змордованы седел над стȣденцомъ (Зб. 255, 15б); Истомленый: Змордованый, оуфатигованый (Бяр., 61).

**Змордованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* змордовати *ў 1 знач.* в таковомъ невинъномъ везеньи и змордованьи былъ знаѕденъ виноватыѕ (КВС, 652б, 1552); просил о возного на оглядане збитя и зъмордованя тых подданых и кгвалтовного половеня рыбъ (АВК, XXXI, 55, 1590); вы есте

причиною змордованꙗ людȣ бж҃ог (Бельск., 61б); за ничого собе не мел гдѣ змордованꙗ ѡного и прагненꙗ (Зб. 255, 16б); Сава чрез шин: Навернене, неволѧ, або сивізна, або змордоване (Бяр., 306).

**Змордовати** *дзеясл.* 1. *Падвергнуць здзекам, катаванню.* Жаловала намъ боꙗрыня господарьскаꙗ Гринковаꙗ Ганна ... на жонȣ на его, рекучи тымъ ѡбычаемъ: жона того Кгабриꙗла избила ми и змордовала дочкȣ мою, перенемши на селищи (КСД, 26, 1510); коли есми шолъ присягати, и ѡнъ мя, немши за грȣди, съсоромотилъ и змордовалъ и не хотелъ ми дати присягати (Там жа, 141, 1514); ѡнъ ... змордовалъ мꙗ и волосы ѡборвалъ (КВЗС, 73б, 1538); рыболова ее милости на име Петра Мисевича, который на томъ езе норостовъ рыбнихъ пилновал, збили, змордовали и шкодливе зранили (АВК, XXX, 101, 1591); небожчыка невинне збили и змордовали и окрутне въ голову и руку ранили (ИЮМ, VIII, 361, 1620); его слȣгъ тѧжкими мȣками змордовавши позабивалесь (Варл., 216).

2. *Змучыць, знясіліць.* подали есте ему, абы насъ забил. и воротилсꙗ мойсей до гсда и реклъ: гсди чому еси змордовал тотъ люд; чому естес мене послалъ, бо ѡт ѡного часу ꙗко есмъ вшол до фараѡна мовити во имꙗ твое, наложилъ тꙗжкост на людъ твой, а не выбавилес ихъ (Біблія, 133).

**Змордоватися** *дзеясл., зв. ад* змордовати *ў 2 знач.* свѧтъ вашихъ ненавидитъ дш҃а моѧ, сталы сѧ мнѣ тѧжарем, змордовалемъ сѧ несȣчи (Каліст, II, 345б); кон барзе$^{s}$ прȣдъко ȣстает, и хот бы и летѣлъ тꙗжъки$^{s}$ ест змордȣетсꙗ (Зб. 259, 555б); коли сꙗ змордовали катове казано ст҃го до темницы вкинȣти (Зб. 752, 102).

**Зморeный, зморенный, зморoный** *дзеепрым. ад* зморити. ꙗ де$^{s}$тȣю невесту ганну из дочками ее голодомъ зморонȣю с казни его передъ вижомъ взꙗлъ (КВС, 538б, 1552); до тых часов есть кон зморoный может быт, а собе коня отыскат мают (АВК, XXXIX, 364, 1579); мнимали жебы людъ голодом и прꙗгненемъ был зморены$^{s}$ на пущи (Біблія, 388); по праци ... твердым был сном зморены$^{s}$, снило емȣ се иж на то$^{s}$ горѣ ... видил волка великог и моцног (Стрыйк., 537—537б); слабы бȣдȣчи Апслѡве ꙗк$^{s}$ члвцы, сномъ зморены, спали (Каліст, II, 314—314б); трете$^{s}$ ночы, коли ȣже тѣло постом змореное спат не могло: тыеж ми се два ȣже неспꙗчому але здȣмѣлому ȣказали (Зб. 752, 439б); коротко тамъ живучи зморены$^{s}$ ѡным вꙗзенем долгим скоро ȣмерль (Пралог, 579б); вси были зморены виномъ (Хран., 375); исус христос по покусе голодомъ зморoны$^{s}$ на голо$^{s}$ земли лежыт (Зб. 255, 4); который ... у везеня осажоный и зморoный у Полоцку, за Москвою, з сего света смертью зышол (ИЮМ, XXVI, 190, 1667); зморенны$^{s}$ ѡным вꙗзенемъ был долгим, скоро преставилсꙗ до ра$^{s}$ским ѡбителе$^{s}$ (Зб. 81, 276).



**Зморенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* зморити. А принꙗвши их римлꙗне дали им ести и пити, а всꙗкож не всѣ могли вытрват, длꙗ зморенꙗ великог: бо которие ȣже долго голод терпѣли, скоро им покармъ вшол до живота зараз ȣмирали (Бельск., 232).

**Зморити, зморыти** *дзеясл. Змарыць, змучыць, крайне стаміць, знясіліць.* бунтовницы ... пришедши теж в дом тои невѣсти побрали е$^{s}$ все штоколвек мѣла живности, коли теж ѡнȣю голод зморил, рада бы была ȣмерла, але еще не был е$^{s}$ конец (Бельск., 234б); Того ж рокȣ фотило крол кготов, зморивши рим голодом, взꙗл, и велми его шкодливе попсовал (Там жа, 325); въ томъ тяжкомъ везеню презъ недѣль тры ихъ державшы и голодомъ зморывшы ... прочъ зъ манастыра ити росказалъ (АЮЗР, II, 55, 1609); ȣже тебе не ꙗчменем але половами кормит бȣдȣ, голодом и прагненем тебе змору (Зб. 752, 448); смѣючисꙗ на нем сѣдꙗчи коли его зморил пытал его а хочешъ ꙗчменю (Там жа, 448б); голодом и прагненем тебе зморȣ, роботою тебе, тежаромъ и ȣпаленемъ и зимном ȣкрȣчу (Зб. 82, 92б).

**Зморкгованый, зморгованый** *дзеепрым. ад* зморкговати. у волоки померены земъли боярына господарского волости Пенянъское Миколая Матвеевича Стецкевича и ... для скуточное ведомости ... черезъ мерника моего Лукаша Заборовского достаточъне естъ зморгованы (АВК, XXIV, 212, 1559); я подкоморый ... вси кгрунты тых имени Попортского и Криваньского зморкгованые, поделил есми межы вси участники (АВК, XXX, 70, 1590).

**Зморкговати** *дзеясл. Абмераць, памераць, вызначыць плошчу ў моргах.* колько волокъ и морковъ, яко ся вымѣритъ, и зморкговавши на реистры пописати (АЗР, III, 85, 1557); абы, зморъкговавшы таковые земли шляхетскіе, напередъ отъмену дано (КПД, 274, 1559); Я заховываючи пущу его королевское милости въ покою, абы за тые копцы и границы, отъ пана обозного подѣланые нихто проробковъ и поль своихъ тамъ не пахалъ ... оныежъ земли его милости пана писаровы зморкговалъ (АВК, XIII, 288, 1560).

**Зморoный** *гл.* зморeный

**Зморщеный, зморщоный** *дзеепрым. Зморшчаны, пакрыты маршчынамі, складкамі.* Згола не вѣдаем, ꙗкъ тые, которые вже ѡкромъ того тъху, длѧ долгого непокою ледве ѡтдыхаючого, а скуры давным голодом зморщоное, ледве знать ꙗко видишъ, иж есмо въжды люди (Атыла, 207); дȣбъ ... корȣ зморщенȣю мает, такое прирожене иж сꙗ з оливнымъ деревомъ згодити не может (Зб. 259, 108б); Враскавый: Зморщеный (Бяр., 16); Зновȣ зас кгды проежчаючисѧ, нѣѧкого престарѣлого старца натрафил$^{s}$, маючого зморщеное лице, ѡслабѣлые и скрывленые ноги (Варл., 34—34б).

**Зморщенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* зморщитися. Каѧлъ:

Згромажене, або зморщенѥе, або столченѥе (Бяр., 283).

**Зморщитися, зморщытися** *дзеясл. Зморшчыцца.* Законник штос станет не ведлѹг воли ег зараз зморщитсѧ (Зб. 261, 139б); коли били стую мног жаднаг слова не мовила ани сѧ зморъщила (Зб. 81, 64); климентови такую терпеливост гсдь бог далъ, же не крычал ани сѧ зморщылъ (Там жа, 222).

**Зморщка** *наз. Маршчына.* Вра̂ска. еѧ. Зморщка, скѹра на старомѕ тѣлѣ скорченаа (Бяр., 16).

**Зморщоный** *гл.* зморщеный

**Зморщытися** *гл.* зморщитися

**Зморыти** *гл.* зморити

**Зморяти** *дзеясл. Адольваць (пра сон).* кгды его сонъ на млт҃ве целочноѕ зморѧлъ, песокъ емѹ ѡт меисца на меисце и высыповать, и зас набират казалъ (Пралог, 677).

**Змоценый** *дзеепрым.* 1. *Ад* змоцнити *ў* 1 *знач.* тотъ домъ ... подъ вольности и свободы шляхетскіе права земъского ... прыверненъ подданъ и онымъ оздобенъ и змоценъ естъ (АВК, XX, 108, 1594); повинни всѣхъ подданыхъ нашихъ правомъ и згодою змоцеными заховати (Апакр., 29б); постановене ихъ предъ насъ, урядъ, ствержоно и змоцнено было на вечные часы (ИЮМ, VIII, 376, 1623); третѧѧ же цѣлост двом тылко реліамъ мѧновите рымскоѕ и грецкоѕ, з давных час тут правом наданѹю и змоценѹю ѡтнѧли и потор-гали (Дыяр., 171б).

2. *Ад* змоцнити *ў* 2 знач. штож розумѣете, што теперъ против вамъ, силы зуполные маючым, долгим ѡтпочываньемъ змоценымъ много товарышства розмноженемъ заможным, панство рымское вже звонтленое будеть могло? (Атыла, 218); ѡт раз застановленои и дх҃ом стым змоценои правды ... не выходѣте (Каз. Кір, 126); амасиѧ ... коли ѹзрѣлъ же ему змоцнено было царство помордовал служебники которыи были забили царѧ ѡтца его (Біблія, 485); змоцнена прето вѕ вѣрованю зѕ слѡвъ тыхъ была дѣва (Каліст, II, 243); коли то тобѣ девице станет, иж се ѡкажет то што ѡ хрстѣ держатисѧ маеш, потом теды будеш змоцнена в вѣре ѡ нем (Зб. 752, 528б).

**Змоцненье** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* змоцнити *ў* 1 *знач.* печати наши приложили есмо къ тому становенью нашому ажъ до змоцненья отъ его королевское милости (АВК, VII, 182, 1582); Во имя Божье, станься къ вѣчной памяти и змоцненью рѣчи нижей-описаноѣ (АЗР, IV, 22, 1589); на твердость и змоцненье тыхъ всихъ рѣчей, дали есьмо имъ сесь нашъ листъ (АЗР, IV, 39, 1591); ѹтвержденіе: Безпечность, безпеченство, змоцненье, оумоцненье, подкрѣпленіе (Бяр., 183); по томъ подписѣ на томъ же листѣ ствержене, змоцненье и подпись рукъ тыми словы (АВК, V, 143, 1680).

2. *Дзеянне па дзеясл.* змоцнити *ў* 2 *знач.* Для тых прычынъ будучы ѡбмовленыи Буда, кгды Атылѧ длѧ того змоцненѧ не смѣл сѧ на него ѧвне кинути, на зраде на него ударывши поималъ его и забил (Атыла, 215); вдѧчне пахнѹчихѕ цнѡт набываемо: ... которыи до дѹшевного змоцненѧ збираемо (Каліст, II, 120б); Мнѡгіе и иншіе чѹда на змоцнене вѣры ѡказовалисѧ (Варл., 319б).

**Змоцненьесе** *наз. Дзеянне па дзеясл.* змоцнитися. было тое честное древо ст҃ое гд҃не. во иерѹсалимѣ на мѣстцѹ томъ где был иракли ѕ положилъ ажъ до змоцненѧ сѧ махометског (Зб. 82, 26).

**Змоцнитися** *дзеясл. Набыць моц, цвёрдасць, стойкасць.* Змоцнѣйсѧ теды, а бѹдь моцным велми: абысь стереглъ и чинилъ весь законъ (Хран., 159б).

**Змоцнити, змоцнить** *дзеясл.* 1. *Сцвердзіць, пацвердзіць, засведчыць, прызнаць правільнасць чаго-н.* пилность свою зо-писати дали хотечи тамъ тотъ городеньскиѕ перевод права и сказъ змоцнитъ (КЛС, 62, 1536); руки свои подписали, змоцнивши тымъ тую мою продажу не инакъ, одно якобы тожъ свой листъ на себе в тежъ слово дали (АВК, XX, 34, 1577); покажет ли се то передъ тымъ судомъ, же шлѧхъ-тичъ неслушне се ѡтозвалъ тогды судъ таковыѕ змоцнити маеть (Ст. 1588, 228); въ которомъ выписе тая копа ясне есть описана, ижъ они копъляне первший судъ свой змоцнили, а знову того судить не хотели (АВК, XVIII, 189, 1602); тое теды постановене, албо велкеръ, уфалою своею зъгодною потвердилисмы и вечными часы зъмоцнивъшы до книгъ меских могилевскихъ записать казали (ИЮМ, VIII, 379, 1623); тое ихъ святое братство благословили и листомъ нашимъ змоцнили и апробовали (АСД, II, 57, 1635).

2. *Падтрымаць, зрабіць больш цвёрдым, стойкім.* верѹ старыхъ ѡтцовъ вашихъ и нашихъ змоцнить и ѡдь ересии и блѹдовъ новыхъ греховъ ѡборонить хочемъ (Бер. саб., 56б); тепер живе гсдь которыѕ мене змоцнил и посадил мене на столицы двд҃а ѡтца моего (Біблія, 408); в Руси змоцнил так барзо, иж иншим кнѧжатом был ѡгромныѕ и так их зголдовал, а иных з кнѧзствъ, выганѧл (Стрыйк., 484); таѧ вѣра весь свѣтъ змоцнила, абы всѣ вѣрили въ единого въ Троцы славимого Бг҃а (Каліст, I, 42); змоцни его на невидѡмые штѹрмы, абы звытѧзства короны ѡт тебе достѹпилъ и в немѕ прославилосѧ имѧ твое (Варл., 354б); слово гсднее ... пѹстыню сарацинскую порѹшило, богѧзливых змоцнило, крщ҃еніе впровадило (Выкл., 117б).

3. *Падмацаваць.* в том примирю шли до ахилеѧ, агемнон крол з нестором ѡт всѣх кгреков, абы в тых часех небезпечных коли се троѧны змоцнили своих не ѡтстѹповал (Бельск., 86б); придали сн҃ове Ізраилевы ѕле чинить предѕ гсдемъ, который змоцнилъ противко имъ Еглома црѧ моавскагѡ (Хран., 174).

4. *Змацаваць, далучыць адно да другога пры дапамозе чаго-н.; умацаваць.* заразом приказалъ дерево возит, и казал мост на лодꙗхъ справит през ѡнꙋю реку а змоцнит добре гвоздъми желѣзными и ланцꙋхи (Алекс., 14б); Приказал богъ всемогꙋчыⸯ горам двѣма котрих зовꙋт ꙋвера и каспа а злучившисе до себе ꙗко на в҃і локот, справил межи ними ворота великии мѣдꙗныи и змоцнил ихъ ассуром, ижъ коли бы ихъ хотѣли, ѡтворит не могꙋт, ани жадным желѣзом ани ѡгнем (Алекс., 42).

**Змоцнитися** *дзеясл. Узмацніцца, умацавацца, стаць больш моцным, цвёрдым, стойкім.* Змоцнилисѧ сынове ізраилевы (Скар. ІН, 34); тые злочинцы змоцнившисѧ того пн҃а самого або слуг и подданых его при егож збожю побили (Ст. 1566 І, 105); Атылѧ змоцнившы сѧ так много звитѧжствъ а поднесъшы сѧ в пыху ... был того мниманѧ, жебы вже лацно въвесь заход слонца шаблею мог под свою моц подбить (Атыла, 182); ѡ тых бо и власть таковꙋю змоцнилсѧ мѣти епископъ римскій (Апакр., 188); змоцниласꙗ битва против сыном вениꙗминовым (Біблія, 136); собрало сꙗ мног кн҃жат ... против сарацином, которие сꙗ в сирѣи на тоⸯ час змоцнили (Бельск., 395б); коли на то зезволит не хотѣла, ѡтмовлꙗючисꙗ емꙋ иж пошлюбила богом своим чистост аж до смерти, кнꙗз кестꙋт змоцнившисꙗ взꙗл кгвалтом еи з того мѣстца (Стрыйк., 545); тогды маючи зⸯ собою Гсда вⸯ мнѡгомъ коханю досконале змоцнитъсѧ (Мак., 119); змоцнил сꙗ гнѣвъ твоⸯ надо мною, и навелъ еси на мене вси навалности (Пс. XVII, 84б); змоцнилсѧ теды Соломѡнъ сынъ дв҃довъ вⸯ царствѣ своемъ (Хран., 289б).

**Змоцняный** *дзеепрым. ад* змоцняти *ў 2 знач.* тѣло вⸯ которомъ дш҃а живетⸯ, покармомъ росчено и змоцнѧно бываетъ: бо где бы не кормлено было тѣло, без похибы дш҃а бы сѧ вⸯ немъ не одержала (Каліст, II, 14б).

**Змоцняти, змацняти** *дзеясл.* **1.** *Сцвярджаць, пацвярджаць, сведчыць, прызнаваць правільнасць чаго-н.* на жеданье пана воеводы Виленского то чинячи, стверждаемъ и змоцняемъ тотъ листъ продажный (АСД, III, 56, 1579); што стверждаючы и змоцъняючы ... дали есмо на то пану Миколаю ... сесь нашъ ... листъ (АВК, XX, 109, 1594); симъ тестаментомъ моимъ змоцняю и во всемъ при моцы заховую (АВК, II, 46, 1617); То все имъ даемъ стверждаемъ и змацняемъ симъ листомъ нашимъ вѣчными часы (АСД, VI, 282, 1640); вольности и въсякие тому месту пожытъки ... симъ листомъ нашымъ зоставуемъ, змоцъняемъ и потверъжаемъ на вечные часы (ИЮМ, II, 248, 1646); ꙋтверждаю: змоцнѧю твердо чиню, стверждаю, ѡборонно чиню (Бяр., 183).

**2.** *Умацоўваць, падтрымліваць, рабіць больш моцным, цвёрдым, стойкім.* Стережис тогды ч҃лче и змоцнѧи твою дш҃ꙋ (Каз. Кір., 102); працꙋючимъ помагаетъ, розслабленныхъ змоцнѧетъ (Каліст, II, 203); ѡнъ вси тыи припадки терпливе зносѧчи, досконалою вѣрою себе змоцнѧл мовѧчи (Мак., 80); ихъ сама ласка змоцнѧла, жебы сѧ намнѣи не оукланѧли (Там жа, 181); Жыкгимонътъ Авъгустъ змоцняючы границы великого князъства Литовъского, велелъ замокъ Суражъскій збудовать а место пры немъ осадити (ИЮМ, II, 243, 1646); знꙗлъ мене теды страхъ ижъ с того мейсца пойти не хотелемъ, кгды мене бг҃ъ не змоцънꙗлъ: потымъ ꙗ до горꙗчихъ молитвъ ꙋдалсе и поклонов (Пралог, 644).

**Змоцнятися, змацнятися** *дзеясл. Узмацняцца, умацоўвацца, станавіцца больш моцным, цвёрдым, стойкім.* «оповѣдана бываетъ по всемъ свѣтѣ», и фундаторомъ ее Петромъ апостоломъ, яко опокою, змоцняется (Пыт., 4—5, 1603); змоцнꙗйсꙗ а бꙋд дꙋжимъ, бо ты подѣлити маешъ людови тому землю (Біблія, 232); нехай сꙗ змоцнꙗють рꙋки ваши а будте сынми мужства (Там жа, 358); през встремежливост вси цноты в ч҃лкꙋ сꙗ змоцнꙗют (Зб. 261, 93); отрочатко росло и змоцнѧло сѧ дꙋхомъ (Каліст, II, 293); Вѣдаетⸯ бовѣмъ Гсдь, же з того сатана на мысли змацнѧетⸯсѧ, жебы ихъ до троскъ сегосвѣтнихъ и зимныхъ рѣчій завѣлъ (Мак., 94—95); домⸯ заправды Іѡасафа росъ и змоцнѧлсѧ, а домъ Авенировъ зходилъ и нищѣл (Варл., 310); тылко ты змоцнѧйсѧ. а мꙋжне собѣ починай (Хран., 160).

**Змоцняючий, змоцняючый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* змоцняти *ў 1 знач.* листъ вышъ реченого святѣйшого Иереміи ... змоцняючый братства Львовского светобливый звязокъ (АСД, II, 58, 1635); листъ вышъ реченаго святѣйшаго Іереміи, патріарха константинополскаго, подтвержаючый вышей менованые два листы, змоцняючый братства львовскаго святобливый связокъ (ИЮМ, XIII, 231, 1728).

**2.** *Ад* змоцняти *ў 2 знач.* Хто бовѣмъ ... не оусмотрѣваетъ вⸯ собѣ вспоможеньѧ Дх҃а ст҃ого, правды змоцнѧючого, слабостⸯ его и ѡдновлѧючого дш҃ꙋ вⸯ веселіи срдца (Мак., 386).

**Змочаный, змоченый** *дзеепрым. ад* змочати. и сели трохꙋ змочанаг хлѣба (Зб. 82, 77); ничого през ѡныⸯ час не елъ, ѡдно суровыи ꙗрины водою змочены (Зб. 82, 331).

**Змочати** *дзеясл. Намочваць, заліваць, затапляць.* То есть всѧ страна ... иже змочаеть Египетⸯ (Скар. ІН, 27).

**Змочи** *дзеясл.* **1.** *Змагчы, здолець.* А было бы тое лицо речь важная, албо шаты або сребро або кони добрые, а того злодея маетност не змогла бы чым з дому его шкодному заплатити; тогды таковое лицо ... маеть даром вернено быти (Ст. 1529, 106); ажъбы теж дариⸯ ѡбличне пришол, а не змог бы своеи присꙗги ѡтменит (Алекс., 76); тотъ ихъ правдиве чисто, и без наганы чинити не зможетъ (Мак., 200); если его поймати не зможемо, иншого ꙗ старого Пꙋстелника знаю, именемъ Нахора, который Варлаамови згола так подобный естⸯ (Варл., 192б — 193); терпѣти болшъ не вѣм если хто з нас зможе (Дыяр., 165б); если бы не змогла оферовать баранка возметъ парꙋ синогорлицъ, або двое голꙋбѧтъ, одно на всесожженіе, а дрꙋгое за грѣх

(Хран., 119б); на них коли сами не змогут, ꙗдовитших и хитреꙿ-ших бѣсовъ приводꙗт (Зб. 82, 326б).

2. *Перамагчы, адолець.* выдал их в рȣки не приѧтелем, и змогли их ненавидѧчие их (Пс. XVI, 108б); сточил мȣжне битвȣ з флерȣсом, и з римским воꙿском, и ȣдѣлал в них великȣю шкодȣ и змоглъ елиазар флерȣса, а наголовȣ поразил все воꙿско его так аж флерус мȣселъ ȣтекат (Бельск., 214б); если ваш рȣсин зможет нашог печенига, то мы вам бȣдем слȣжити (Стрыйк., 447); часто крот валчили на мене ѡт молодости моеи, а ѡднакъ же мене не змогли (Пс. XVII, 150б); Мощи: Здȣжати, змочи (Бяр., 81).

**Змочися** *дзеясл. Змагчыся, аслабець.* прилетѣла дѣлнаꙗ кȣлꙗ и самог моцара греков то ест застȣпиꙗ в самоꙿ перси ȣдарила ѡднак его не забила бо се ȣже была змогла, летꙗчи здалека, а до тог мѣл на собѣ зброю, и ѡтлили его водою (Бельск., 389).

**Змочити** *дзеясл.* 1. *Змачыць.* взѧлъ Азагель ковѣръ и змочивꙿ ȣ воде (Скар. ЧЦ, 201); не погледаешъ на тотъ моꙿ крвавыꙿ, которимъ змочилемъ тѣло все мое (Зб. 259, 635); ѡн змочивши собѣ колкос розокъ палмовых, стꙗгнул вкупѣ (Зб. 82, 332).

2. *Замачыць.* перешол весь люд и не змочил стȣпенꙗ ног своих (Зб. 752, 264).

**Змочитися, змочытися** *дзеясл. Змачыцца, намокнуць.* Змочиласе была, какъ бы оу воде была и змочона была албо понорена (Пак. Хр., 6); ȣважаꙿ ижъ еднак гдѣ допȣстилъ же се добре змочылсе (Зб. 255, 2б).

**Змочоный** *дзеепрым. ад* змочити *ў 1 знач.* Змочиласе была. как бы оу воде была и змочона была албо понорена (Пак. Хр., 6); Якожъ я возный за оказаньемъ его видѣлъ есьми того пана Якуба возного, усего змочоного (АВК, VI, 60, 1584); росою небесною тѣло его змочоно есть (Біблія, 541); росою нбсною тѣло егѡ змочоно было (Хран., 365); естъ речь барзо шпетнаѧ, мачати голȣю рȣкȣ вꙿ крови Іс҃а Хрста, и змочоный ст҃ый Агнецъ полагати на патынѣ (Зб. вып., 31).

**Змочытися** *гл.* змочитися

**Змощити** *дзеясл. Тое, што і* зможжити. сотрȣ твою моц и головȣ а змощу твое наꙿгреване (Зб. 752, 69).

**Змрокъ** *наз.* 1. *Змрок.* ишолъ до господы своей ... увечоръ, на змроку (АВК, XX, 261, 1619); на змроку седеломъ зъ тымъ Матюшою у дому пана киркора и еще на змрокъ розышлисе, онъ до своего дому а я также до дому своего отшолъ (ИЮМ, VIII, 526, 1636); вже дей гумно панское почало гореть у вечоръ на змроку (АВК, XVIII, 353, 1647).

2. // *перан. Пагасанне, страта бляску (пра вочы).* Того сѧ вси держите, невъстȣпȣйте крокȣ, до остатнего тхȣ дȣха, очій вашихъ змрокȣ (Лям., 25).



**Змружати** *дзеясл. Зажмурваць.* ѡрлꙗта ... ѡчи противъ промен солънечных змрȣжают (Зб. 259, 562б).

**Змруженый, змружоный** *дзеепрым. Зажмураны.* з того тѧжкого снȣ прошȣ, ѕбȣдисѧ, и змрȣженые очи твои ѡтвори (Варл., 201); ѡрлꙗта ... змрȣжонымъ ѡкомъ в тое жъ погледают в слонъце (Зб. 259, 562б); ѡрлом естес на слонце справедливости не змрȣжонымa ѡчима смотрꙗчим (Зб. 259, 652б).

**Змуленый** *дзеепрым. Змуляны.* Купили для коня змуленого в дорозе, которого панъ Гукъ бурмистръ купилъ зъ сейму едучы, шыдвасеру поллота, грышпану лотъ дали за въсе. осм. осемъ (ИЮМ, VII, 103, 1690).

**Змулетися** *дзеясл. Змуляцца.* Конь одынъ змуливъся, дали горелки на шмароване за четыры осмаки, мыла за осм. одинъ (ИЮМ, VII, 91, 1690).

**Змурованый** *дзеепрым. ад* змуровати. церковъ тежъ велми на высоком мѣстцȣ змурована, ѡколо неи чотырма сады была ѡсажона (Біблія, 609); церков змȣрована была (Бельск., 199); перенесене мощеꙿ ст҃ых мȣчеников Бориса и глѣба в новȣю церков в вышъгородѣ змȣрованȣю (Стрыйк., 462); великаꙗ церковъ на имꙗ еи змȣрована ест (Зб. 752, 462).

**Змурованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* змуровати. сребро зась, ... маетъ быть отдано до рукъ ... а ими оборочоно на змуроване церкви буйницкой быти маетъ (ИЮМ, X, 425, 1686).

**Змуровати** *дзеясл. Змураваць.* тоей церкви ... которую былъ змуровалъ панъ Иванъ Иваницкий (АВК, III, 5, 1485); семеѡнъ ... змȣровалъ собѣ камѣнием, мало мѣстьце. и стоꙗлъ на нем г҃. лѣта (Чэцця, 5); отецъ нашъ на одной половицѣ того двора погребъ съ коморою змуровалъ (АВК, XIII, 5, 1503); тые кнѧжата розселилисѧ на том мѣстцу и городъ змуровали Каменец (Рач., 328); на дȣнаю мост дал змуроват (Бельск., 238б); змȣровали мѣсто за час невеликиꙿ (Тр. гіст., 68); Потом змȣровалъ мȣръ пред мѣстомъ дв҃довымъ на всходъ сл҃нца (Хран., 348).

**Змученый, змучоный** *дзеепрым. ад* змучити. просилъ насъ князь Климъ на огледанье той подданой своей змучоное о вижа (АВК, XXI, 202, 1556—1557); возного змучоного ледво живого и тепер у везеню держить (АВК, XXXVI, 18, 1582); тотъ подданый мой змордованый, змучоный, не ведаю, живъ-ли будеть (АВК, XVIII, 100, 1592); у рымлꙗнов положоно естъ мц҃а марца второго днꙗ Тэодора, гэтмана ѡт Лицынинȣша змучоного (Еўл., 1); так мордован немилостивыꙿ мордерца и иными незличоными болми, и тꙗжкостꙗми змȣчон незбожной а ѡкрȣтнои дш҃и своеи пȣстилсꙗ (Бельск., 201); пришолъ до него сотникъ просѧчи его ... за слȣгою своимъ барзо схорѣлымъ, и окрȣтне болемъ розслабы змȣченымъ, и оуже праве конаючимꙿ (Каліст, II, 18б); зновȣ росказал староста вкинȣти до вꙗзенꙗ велми змученȣю (Зб. 752, 83); тѣло ее все змучено (Там жа, 86); тело змȣченое тым славнѣꙿше ... бȣдет чим болше мȣки притерпим (Пралог, 502б);

